# НАВІНЫ СУХАРАВА

№ 3, Снежань 2007 — Студзень 2008

Мясцовая газета www.sunaviny.org





## А Н О Н С






# Предприниматели индивидуальные — проблемы общие

**Указ 760 затрагивает интересы тысяч жителей Сухарево. Под угрозой работа и семейное благосостояние многих.**

В Сухарево нет больших рынков и выставочных центров. Но тут живут индивидуальные предприниматели и те, кто на них работает. Они живут на Сухаревской, Шаранговича, Панченко и других улицах, а трудятся и создают рабочие места на тех же Ждановичах, "Паркинге", ЭКСПОБеле и т.д.

Основное требование индивидуальных предпринимателей — отмена пункта 1.1 Указа Президента № 760, согласно которому с 1 января 2008 индивидуальные предприниматели не могут привлекать наемных работников. Для десятков тысяч людей это все равно, что быть выброшенными на улицу.

Людмила и Юрий занимаются предпринимательством давно. Еще с тех пор, когда работать приходилось в сложных условиях, с рэкетом на дорогах, клетчатыми тяжеленными сумками в женских руках, длиннющими очередями на границе. Но постепенно бизнес становился цивилизованнее. Подросли дети — и тоже присоединились к семейному делу.

*(Продолжение на стр.3)*

# Колькі каштуе ваша кватэра?

**Агляд тэндэнцыяў разьвіцьця рынку нерухомасьці і коштаў на кватэры ў Сухараве.**

Мяркую, што шмат хто з тых, хто апошнія некалькі год блізка не сутыкаўся з праблемаю набыцьця і продажу жыльля, не зусім уяўляюць дынаміку росту коштаў на нерухомасьць у Менску і ў Сухараве ў прыватнасьці. Канешне, усе чулі, што жытло зараз каштуе дорага, што дзяржапарат быццам бы заняўся праблемай коштаў на рынку нерухомасьці, у прыватнасьці спрабуе кантраляваць рыэлтэраў, якія штучна ствараюць ажыятаж на рынку і правакуюць падвышэньне коштаў.

Аднак давайце паглядзім, колькі прыкладна каштуюць стандартныя кватэры на другасным рынку нерухомасьці ў Сухараве.

*(Працяг на стар. 2)*

# Людзі Сухарава — 2007

## Лаўрэат "Прэміі Еўропы"



Аляксандр Лагвінец, які жыве ў нашым мікраraёне, атрымаў "Прэмію Еўропы" 2007. Яна ўручаецца адзін раз на год арганізацыі ці прыватнай асобе, якая паспрыяла еўрапейскай згодзе, Нямецкім фондам ім. Гайнца Шварцкопфа "Маладая Еўропа". Аляксандр Лагвінец — выпускнік БДУ і Страсбургскага Універсітэта, выкладчык паліталогіі — адзначаны за дасягненні ў наладжванні лепшага паразумення паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам, прасоўванне еўрапейскіх каштоўнасцяў у Беларусі і працу з моладдзю.

"Я шчыра жадаю, каб еўрапейцам мог назваць сябе кожны жыхар Беларусі. Таму атрыманне гэтай прэміі ёсць для мяне моцным штуршком працаваць яшчэ больш інтэнсіўна і самаададдана", — падзяліўся ўражаннямі Аляксандр Лагвінец пасля атрымання ўзнагароды 5 снежня 2007 года у Берліне.

**Паводле "Нашай Нівы" (www.nn.by)**

## Першая лаўрэатка Прэміі ім. В. Ластоўскага

У чэрвені 2007 года жыхарка нашага мікраёну Сухая Тамара Аляксандраўна стала ганаровай лаўрэаткай прэміі імя Вацлава Ластоўскага, якая прысуджаецца беларускамоўным выкладчыкам ВНУ.

Сухая Тамара Аляксандраўна — дацэнт кафедры вышэйшай матэматыкі №3 Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта. Свой курс выкладае па-беларуску з 1991 года. Дзякуючы Тамары Аляксандраўне не адно пакаленне маладых спецыялістаў вывучала вышэйшую матэматыку на роднай мове.

Тамара Аляксандраўна таксама аўтарка пяці дапаможнікаў па сваім курсе, член рэдкалегіі і аўтарка "Матэматычнай энцыклапеды".

**Паводле www.nastaunik.info**



# Колькі каштуе ваша кватэра?

*(Працяг, пачатак на стар. 1)*

Аднапакаёвыя кватэры: звычайная аднапакаёўка 32 кв.м. з кухняй 7 кв.м. каштуе ў сярэднім 65-68 тыс. даляраў. Аднапакаёўкі ў новых дамах пры агульнай плошчы каля 39 кв.м. і кухні 9 кв.м. каштуюць каля 75 тыс. даляраў.

Двухпакаёвыя кватэры: найніжэйшыя кошты на двухпакаёўкі пачынаюцца ад 90 тысяч даляраў (за кватэру 47 кв.м. з кухняй 7 кв.м.) Двухпакаёўка ў доме з палепшанай пляніроўкай (так званы чэскі праект — 50 кв.м. і кухня 9 м.кв.) абыйдзецца ўжо ў 100 тысяч даляраў. Яшчэ даражэйшыя кватэры ў новабудах — каля 110 тыс. даляраў. Варта заўважыць, што на двухпакаёвыя кватэры відэлец коштаў значна шырэйшы, чым на аднапакаёўкі.

Тут шмат залежыць ад стану кватэры. Уплыў на кошт маюць: павярховасьць (звычайна неліквіднымі лічацца першы і апошні паверхі), наяўнасьць шклопакетаў, матэрыял падлогі, наяўнасьць шафаўкупэ, кафлі, стан сантэхнікі, агульны стан кватэры. Увогуле, двухпакаёўкі зараз — самы попытавы тавар на рынку сталічнай нерухомасьці.

Трохпакаёвыя кватэры. Кошты пачынаюцца ад 110-115 тысяч даляраў за самыя танныя кватэры, кватэры палепшанай пляніроўкі з большай кухняй каштуюць каля 125-130 тысяч даляраў, увогуле кошты сягаюць да 150 тысячаў.

Чатырохпакаёўкі і болей. Прапанова вялікіх кватэр у Сухараве дастаткова абмежаваная, што абумоўлена маленькай колькасьцю такога кшталту нерухомасьці і занадта высокімі коштамі за іх. Кошты ад 150 тысяч даляраў. Сярэдні кошт 1 м.кв. у такіх кватэрах ніжэйшы за астатнія — каля 1750 даляраў. Аднак можна знайсьці нават аўтарскія праекты, некалькі ўзроўневыя кватэры, кватэры класа люкс — кошт такой нерухомасьці сягае пад 250-300 тысяч даляраў.

Кошты на сухараўскую нерухомасьць адпавядаюць сталічным тэндэнцыям: вялікага скоку коштаў на кватэры ў заходняй частцы горада, да якой належыць мікраён Сухарава, у гэтым годзе не адбылося (у параўнаньні з некаторымі раёнамі ўва ўсходняй частцы сталіцы), адбываецца стабілізацыя коштаў і сярэдні кошт 1 м.кв. за кватэру ў Сухараве ўмацаваўся на 1950 далярах за 1 кв.м.

У 2008 годзе аналітыкі прагназуюць далейшую стабілізацыю рынка нерухомасьці, магчыма, з невялікай тэндэнцыяй да памяньшэньня коштаў, аднак значнага абвалу рынка не чакаецца, бо нерухомасьць дагэтуль застаецца самым выгодным і бязрызыкоўным у Беларусі сродкам укладаньня грошай.

**Apalonik**



# Што турбуе жыхароў нашага мікраараёна

**У Сухарава каля 60 тысяч жыхароў. У кожнай кватэры свае радасці і праблемы. Але ёсць тое, пра што варта задумацца ўсім, і тое, чым усе мы можам ганарыцца. Канешне, мікраараён паляпшаецца, але ўсё яшчэ застаецца цэлы шэраг нявырашаных праблем.**

**Андрэй (малады банкаўскі супрацоўнік):**

— Больш за ўсё мяне раздражняе ўезд/выезд з Сухарава! Дзесьці з 8 і да 10 раніцы і з 17.00 д 19.30 заторы на дарогах неверагодныя. Дабірацца на працу і вяртацца дахаты — проста мучэнне! Асабліва "вясёленькі" участак ад Лясной да Атланту М. Там ездзіць нават небяспечна! А калі нарэшце дабярэшся ўвечары дахаты — паспрабуй яшчэ знайсці, дзе машыну паставіць, бывае, што заганяеш на тратуар або газон. А што рабіць?

**Кацярына, ягоная жонка, сядзіць дома з маленькай дачкой:**

— Для мяне праблема — гэта дзіцячы садок. Я б ужо пайшла працаваць, а месцаў няма. Ну як раён можа расці і развівацца, калі няма, куды дзяцей аддаць? А нават калі месца і знойдзеш, дзеці пачынаюць хварэць. Тут ужо другая праблема паўстае — паліклініка. Мне адной сапраўды цяжка. Для маладых мам Сухарава зусім не прыстасаванае месца.

**Тацяна і Андрэй атрымалі кватэру ў Сухараве, калі іх дзеці былі зусім малыя. Зараз дзеці падраслі, але асноўным застаўся клопат пра іх:**

— Тут нічога няма для моладзі. Акрамя піцэрыі і камп'ютэрнага клубу. На жаль, большасці даступны апошні. Вакол "Галанэту" — мат, цыгарэтны дым, падлеткі, дзеці, што растуць з бутэлькай піва ў руках. Хтосьці зарабляе на тым, што нашым дзецям проста няма куды больш пайсці. А гульні — гэта той жа наркотык.

**Наталля (бухгалтар, 45 год):**

— Дык я ў Сухарава і не жыву, толькі ноччу, — адразу адказвае Наталля на пытанне. І яна, і яе муж працуюць у цэнтры, малодшая дачка вучыцца ў адной з гімназіяў, сын — у эканамічным універсітэце.

Яшчэ мінулым месяцам дзецям скасавалі ільготы на праезд. А яны як мінімум ездзяць на вучобу і назад. Плюс малодшая два разы на тыдзень ездзіць у басейн. Ну і старэйшы дома вечарамі не сядзіць. Таму павышэнне кошту на праезд для маіх дзяцей вельмі адчуваецца. Мінімум 50 даляраў на месяц атрымоўваецца. Сын у мяне на платным вучыцца: на рэпетытараў з універсітэту грошаў тады не хапіла. Вельмі несправядліва: ільгот пазбавілі, кошт за навучанне паднялі. Толькі калі пайшлі плаціць чарговы ўнёсак — чарговае павышэнне кошту на 70 даляраў. Вучоба даражэе неверагодна! Больш за сто даляраў на месяц выходзіць, калі раскласці.

**На праблемы інфраструктуры звяртае ўвагу і Сяргей. Кім працуе невядома, але машына добрая:**

— Ну я ж ужо ня хлопчык, каб з півам пад пад'ездам сядзець. Хочацца і з жонкай у рэстарацыю схадзіць, дый бізнэсовыя справы трэба вырашаць. Некаторыя з маіх партнёраў таксама жывуць у Сухараве. Дарэчы, тут вельмі шмат багатых і паспяховых людзей. Хочацца часам з хлапцамі ў футбол паганяць, у нармальную трэнажорную залу схадзіць. Ня ведаю, раён вялікі, мо дзе і ёсць, але блізу свайго дому я не бачыў.

*Гутарка нават з некалькімі людзьмі Сухарава — самымі звычайнымі, тымі, якія, магчыма, жывуць па суседстве, сведчыць пра тое, што яшчэ ёсць над чым працаваць.І што кожнаму хочацца, каб Сухарава стала месцам, дзе людзі жывуць, а не проста начуюць.*

# Предприниматели индивидуальные — проблемы общие

*(Продолжение, начало на стр. 1)*

"Самым тяжелым было сказать людям, которые с нами работали не один год, — "до свидания". Они и так все понимали, но все равно было тяжело. У нас работала наша соседка, у которой трехлетний сынок, его кормить надо, одевать. Мы ей не только работу дали, но и так помогали, так сказать, вещами — без наценки или в подарок. Она всегда могла подмениться. Сейчас она просто в отчаянии", — расстраивается Людмила.

Юрий мыслит более глобально:

"Мы — это сильный средний класс. Раньше я был далёк от политики, думал только про то, что у нас в семейном кошельке и холодильнике. Разобравшись же во всем, что творится, я понял: мы живем в оккупации. Государство создает условия для крупного бизнеса из Китая, арабских стран. А своих собственных граждан, которые содержат армию чиновников, — или палкой па спине, или в тюрьму".




Мысль Юрия продолжает его жена:

"Самое обидное, это когда с тобой обращаются по-хамски. Пока с экранов говорили про рыночные преобразования, мы этот рынок сюда притащили на своем горбу. С челноков мы стали индивидуальными предпринимателями. И мы не хотим за день отказываться от того, что создавали годами".

Юрий:

"После митинга моя жена долго плакала: она не могла поверить, что с людьми на самом деле обошлись настолько жестоко. Конечно, вместо того, чтобы идти на площадь, мы могли б и в ЧУП перейти и на продавцов переоформить точки. Но мы же не дети. Завтра настанет очередь того, кто думает, что его это не касается или что за него все сделают другие, а он как-то перекантуется".

# У гэтым годзе знікнуць усе шапікі на прыпыначных пунктах

**Па рашэнні Мінгарвыканкаму ў 2008 годзе з усіх прыпыначных пунктаў знікнуць шапікі.**

Усяго ў горадзе іх засталося 280. Асабліва запатрабаваны дробны гандаль у мікрараёнах. Жыхары Сухарава дагэтуль шкадуюць, што знік "Сухараўскі рад" (на ягоным месцы ўжо некалькі год — "даўгабуд"), а зараз ня будзе шапікаў і на прыпынках.

**Што гэта значыць для простага жыхара мікрараёна?**

Нават каб набыць гумку, насоўкі, шакаладку, цыгарэты, бутэльку мінералкі або піва прыйдзецца ісці ў краму, стаяць у чарзе. Звычайна людзі, калі робяць пакупкі на ўвесь тыдзень на рынку або ў гіпермаркеце, забываюцца на розныя дробязі. Шапікі выратоўваюць, калі трэба набыць неабходнае падчас шпацыру з каляскай або з сабакам. Дый што тут тлумачыць? Хто з нас не выбегаў у шапік?

**Што гэта значыць для прадаўцоў?**

Уладальнікам шапікаў прапанавалі месцы на ўпарадкаваных месцах гандлю. Гэта значыць больш жорсткая канкурэнцыя і зніжэнне прыбыткаў.

**Што гэта значыць для чыноўнікаў?**

Па словах намесніка старшыні Мінгарвыканкаму Алега Табанюхава, сёння праца аб'ектаў дробнай розніцы супярэчыць сучасным патрабаванням, якія прад'яўляюцца да арганізацыяў гандлю і абслугоўвання насельніцтва. Апроч таго, недастатковая гандлёвая плошча шапікаў не спрыяе ўкараненню высокатэхналагічных і эфектыўных працэсаў у сферы гандлю. Не адпавядаюць яны нібыта і эстэтычнаму ўзроўню.

Варта адзначыць, што па эстэтычным узроўні сучасныя шапікі значна вышэй за многія крамы, якія,



падаецца, засталіся некранутымі з савецкіх часоў. Цікава, якія высокія тэхналогіі ў сферы гандлю патрэбныя, каб прадаць якую шакаладку, корм для коткі, бутэльку колы, прэзерватыў або хусцінкі?

ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!
**Калі ў Вас узніклі пытанні, ёсць цікавы матэрыял, звязаны з жыццём у нашым мікраараёне, кантактуйцеся з намі.**
Кантакты: п.с. 148, г. Мінск, 220005
info@sunaviny.org; web: www.sunaviny.org

# 10 галоўных праблем, якія хвалююць жыхароў Сухарава

*(паводле апытання на вуліцах мікрараёна)*

## Мікрараёну БРАКУЕ:

- месцаў у дзіцячых садках (чарга распісаная на 2-3 гады наперад);
- дастатковай колькасці паркоўак каля дамоў, адсутнасць паркінгаў;
- сваёй паліклінікі, якаснага і даступнага медыцынскага абслугоўвання;
- дадатковых транспартных маршрутаў ў гадзіны пік;
- адрамантаванага і пашыранага ўезду ў Сухарава па вул. Шаранговіча з боку вуліцы Панамарэнкі;
- сучасных дзіцячых пляцовак і гурткоў;
- аздараўляльных комплексаў, спартыўных залаў;
- паркаў, зялёных зон, пляцовак для выгулу сабак;
- кавярняў, рэстаранаў, непрадуктовых крамаў;
- культурна-забаўляльных цэнтраў (дыскатэка, кінатэатр, бібліятэка).

***Чытайце ў наступным нумары:***



***Што будуюць у Сухараве?***
***Калі пабудуюць паліклініку?***
***Даўгабуды-недабуды Сухарава***
***Агляд інфраструктуры Сухарава***

# Камп'ютарныя сеткі пад ПАГРОЗАЙ?

Сёння ў сталіцы стаць абанентам хатняй сеткі можна практычна ў кожным доме, асабліва ў спальных раёнах. Па некаторых ацэнках, рост рынка хатніх сетак складае каля 200% у год. Сухарава тут не выключэнне. У нас да сетак падлучаныя тысячы карыстальнікаў.

Да 2007 году існаванне сетак не ставілася пад пытанне. Але ў сакавіку 2007 намдырэктара Дэпартаменту фінансавых расследванняў заявіў, што будуць прымацца меры па "ўпарадкаванні" карыстання хатнімі сеткамі. У снежні мінулага году з такой жа заявай выступіў Мінгарвыканкам. Вельмі верагодна, што ў бліжэйшы час хатнія сеткі могуць проста перарэзаць, а значыць пазбавіць карыстальнікаў таннага і зручнага доступу да Інтэрнэту.

Прадстаўнікі ўлады кажуць пра "ўпарадкаванне", але ўсё паказвае на тое, што сапраўднымі прычынамі барацьбы супраць развіцця лакальных сеткаў з'яўляецца жаданне дзяржаўных структураў кантраляваць абмен інфармацыяй паміж карыстальнікамі і імкненне абкласці падаткамі і гэты сегмент рынку паслуг.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне "Навіны Сухарава". Выдаецца па ініцыятыве жыхароў Сухарава.**

**Надрукавана ў друкарні Мамонічаў. Наклад: 299. Аб'ём: 2 паласы А3. Чытайце ў інтэрнэце: www.sunaviny.org**

**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца. Распаўсюд бясплатны.**